**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 09 (986) 28 лютага 2019 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by




**Дзень роднай мовы ў Глыбокім. Імпрэза прайшла ў Глыбоцкай раённай бібліятэцы. Зладзілі яе працаўнікі гэтай установы сумесна з наведвальнікамі курсаў „Мова нанова" ў Глыбокім.** *Фота Таццяны Смоткінай.*



## Беларусь плануе сертыфікаваць прадпрыемствы для паставак бульбы ў ЕС

**Беларусь плануе сертыфікаваць прадпрыемствы для паставак бульбы ў краіны ЕС, паведаміў сёння журналістам начальнік галоўнага ўпраўлення знешнеэканамічнай дзейнасці Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Аляксей Багданаў перад адкрыццём ІІІ Міжнароднага форуму "Беларусь аграрная", перадае карэспандэнт БелТА.**

"Мы цяпер актыўна працуем над тым, каб адкрыць пастаўкі беларускай бульбы на еўрапейскі рынак. Мы падалі ўжо заяўку па пераатэстацыі нашых земляў. Еўракамісія разглядае нашу прапанову, і мы будзем далей рухаць пытанне сертыфікацыі нашых прадпрыемстваў для паставак бульбы ў Еўрапейскі саюз", - сказаў Аляксей Багданаў.

Экспарт бульбы ў 2018 годзе склаў $50 млн і знізіўся на 28 працэнтаў. "Мы бачым гэту праблему і будзем сёння яе абмяркоўваць. Гэта звязана з тым, што пастаўкі бульбы ішлі больш на расійскі рынак, які актыўна развіваецца. Вытворчасць бульбы ў краінах ЕАЭС расце, таму пытанне геаграфічнай дыверсіфікацыі экспарту будзе стаяць востра. Неабходна адыходзіць ад залежнасці ад аднаго рынку, пашыраць геаграфію экспартных паставак, нарошчваць якасць вытворчасці, укараняючы сучасныя лічбавыя тэхналогіі", – адзначыў начальнік галоўнага ўпраўлення ЗЭД.

*БелТА*

ISSN 2077-8023






*Ва ўсіх паштовых аддзяленнях Віцебскай вобласці*
**можна выпісаць газету "Вольнае Глыбокае" на 1-е паўгоддзе 2019 г.**

## Аршанскі раён

# Зноў таптанне на месцы

■ Станіслаў Раманчук

**Нешта не тое стала адбывацца ў краіне, бо нават прамыя даручэнні кіраўніка Беларусі толкам перасталі выконвацца.**

Яшчэ два гады назад А. Лукашэнка загадаў вярнуць з “руін і попелу” да нармальнага жыцця Аршанскі рэгіён з развітай некалі прамысловасцю і сельскай гаспадаркай. На малой радзіме прэзідэнта летась пасля даволі жорсткіх разборак памяняўся нават склад урада. Маштабныя задачы даручылі курыраваць прэзідэнцкай Адміністрацыі і паставілі задачу да 7 лістапада дабіцца першых зрухаў да лепшага. Аднак, як адзначалася на адкрытым выязным пасяджэнні Віцебскага аблвыканкама, сітуацыя ў Оршы так і не зрушылася з мёртвай кропкі, нягледзячы на 2,4 млрд. рублёў інвестыцый у рэгіён. З пяці мясцовых праблемных прадпрыемстваў толькі на інструментальным заводзе намеціліся нейкія зрухі ў лепшы бок. Праўда, яму выдзелілі 50 млн. долараў і падключылі да супрацоўніцтва з заводам МТЗ. На астатніх заводах мала што памянялася, а раён праваліў асноўныя вытворчыя паказчыкі. На Аршаншчыне адны з лепшых у вобласці землі, але ў мясцовых гаспадарак не хапае мінеральных угнаенняў да прадстаячай веснавой сяўбы. Не дастае таксама для пасяўной і насення лёну, які тут надрэнна расце. Не паспяваюць закончыць рамонт глебапрацоўчай і пасяўной тэхнікі да работ у полі. У мясцовага будтрэста № 18 свая праблема недахопу кваліфікаваных кадраў будаўнікоў. Размова на пасяджэнні вялася на павышаных танах, вінаватым, уключаючых новага главу раёна, прыгразілі звальненнем за слабую работу з падначаленымі. Абурыла высокіх упраўленцаў з Мінска на чале з главой прэзідэнцкай Адміністрацыі, што аршанцы свой горад належным чынам прывесці ў парадак не могуць, хоць ім набылі нават патрэбную камунальную тэхніку.

## Віцебск

# Чарговая навінка ваенпрама

■ Чэслаў Якубовіч

**Баяздольнасць любой арміі залежыць ад многіх фактараў, а важнейшае значэнне мае наяўнасць у воінскіх часцях сучаснай баявой тэхнікі.**

Напрыканцы зімы размешчаная ў абласным цэнтры 103-я асобная паветрана-дэсантная брыгада сіл спецаперацый першай у Беларусі атрымала партыю з 9 навейшых айчынных бронетранспарцёраў “Кайман”. Віцебскія дэсантнікі-гвардзейцы ўваходзяць у склад сіл аператыўнага рэагавання АДКБ і неўзабаве на адным з палігонаў апробуюць гэтыя грозныя мадэрнізаваныя БТР-70 у справе. Тэхнічныя характарыстыкі новых 8-тонных браніраваных машын, сапраўды, уражваюць. Практычна ўся начынка гэтай тэхнікі з беларускіх камплектуючых і дызельных рухавікоў сталічнага маторнага завода. Па роўнай дарозе яны могуць разганяцца да 100 км у гадзіну, а пры неабходнасці пераадолеюць любую водную перашкоду. Гэту партыю беларускія канструктары аснасцілі аўтаматычнымі гранатамётамі, новыя падобныя БТР будуць таксама з пулямётнымі модулямі. Галоўнае, што тэхніка надзейна абараняе жыццё салдат не толькі ад куль, яна не баіцца падрыву на фугасах. Падчас язды “Кайманы” зручныя ў эксплуатацыі, лёгкія і манеўраныя, па сваіх характарыстыках адпавядаюць у сваім класе лепшым замежным аналагам. Не дзіўна, што распрацоўкай айчыннага ваенпрама ўжо зацікавіліся казахскія ваенныя і ў шэрагу арабскіх дзяржаў. Акрамя ўсяго баявыя машыны аснашчаны відэакамерамі, якія забяспечваюць экіпажам належны агляд мясцовасці з усіх бакоў. Яны могуць выкарыстоўвацца для правядзення разведкі, аховы блок-пастоў і іншых ваенных аперацый. Летам чарговыя партыі новай баявой тэхнікі паступяць на ўзбраенне ў іншыя падраздзяленні беларускай арміі. Чакаецца, што і 103-я брыгада таксама атрымае яшчэ адну партыю “Кайманаў” па праграме свайго баявога перааснашчэння.

## Бешанковіцкі раён

# Закурылі ў апошні раз

■ Кастусь Александровіч

**Хоць і імкнуцца ў Беларусі навучыць усіх асноўным правілам забеспячэння бяспекі жыццядзейнасці, але недарэчна, на жаль, гіне яшчэ шмат суайчыннікаў у розных ДТЗ, на вадаёмах, ад атраўлення алкаголем і ад іншых прычын.**

Заключны месяц зімы парадаваў цяплом і сонцам, абстаноўка стала меней пажаранебяспечнай, аднак без вогненных трагедый зноў не абышлося. Адразу пасля апоўначы ў выхадны паступіў сігнал аб пажары ў жылым доме ў вёсцы Дуброва Бешанковіцкага раёна. Там у сваёй хаце пражываў 60-гадовы непрацуючы гаспадар. Да сябе ў госці ён запрасіў напярэдадні маладзейшага 28-гадовага мужчыну, які працаваў механізатарам у мясцовым сельгаспрадпрыемстве “ПлісыАгра”. Якая ж сустрэча ў наш час гасцей, тым больш мужчын, абыходзіцца без чаркі. Пасля застолля многіх цягне яшчэ закурыць, што і стала ў чарговы раз прычынай гібелі адразу двух чалавек. Падчас тушэння пажару былі знойдзены іх трупы. У самім доме полымя пашкодзіла сцены і маёмасць загінуўшага. Характэрна, што ў тую ноч адначасова загарэўся і прыватны жылы дом на вуліцы Залатагорскай у Віцебску. Там, на шчасце, абышлося без ахвяр, аднак 30-гадовы гаспадар застаўся без даху. Значныя сродкі прыйдзецца знайсці яму на рамонт пашкоджанай агнём столі і сцен і на замену маёмасці.

# Не сацыяльныя сеткі, кінобаевікі і відэагульні фарміруюць свядомасць маладых людзей, а жыццёвыя абставіны і паводзіны дарослых



■ Аляксандр Цішкевіч.

**У нашы дні, сапраўды, ужо нічога нельга схаваць. Людзі сталі іншыя, час больш дынамічны, а многія суайчыннікі сярод нас сталі больш жорсткімі. Даволі жорсткія адносіны да людзей ідуць з самага верху, наша краіна засталася адзінай на кантыненце, дзе прымяняецца смяротнае пакаранне.**

Беларуска-расійскі зацяжны палітычны раман на вышэйшым узроўні набыў новыя формы, бо высвятляюць, што не могуць лідары саюзных дзяржаў цяпер жыць адзін без другога. З моманту іх апошняй перадзнавагодняй маскоўскай сустрэчы і двух месяцаў не прайшло, як яны на тры дні расцягнулі сваё чарговае спатканне ў Сочы і нават на горных лыжах разам пакаталіся. Перад гэтым, памятаецца, А. Лукашэнка пасля не вельмі прадуктыўных перамоваў са сваім калегам адмовіўся пайсці з Пуціным глядзець летам турнір самбістаў і потым згуляць зімой на Чырвонай плошчы ў свой любімы хакей. Нязменны беларускі лідар гаспадару Крамля таксама тэлефанаваў перад правядзеннем нарады па забяспечэнні інфармацыйнай бяспекі.

Верагодна, тады размова ішла аб тым, каб у расійскіх СМІ напярэдадні выбараў у нас не было атак на беларускае кіраўніцтва. Услед за гэтым глава дзяржавы падпісаў на ўсялякі выпадак указ аб стварэнні Беларускага інстытута стратэгічных даследванняў. Чарговая ягоная камандзіроўка на чарнаморскае ўзбярэжжа пачалася на фоне шакіруючай навіны аб тым, што ў адной са школ не так далёка ад беларускай сталіцы ціхі і спакойны вучань забіў сваю настаўніцу і 11-класніка, параніў яшчэ двух падлеткаў. Прэзідэнт адрэагаваў на гэта жудаснае здарэнне ў сваім стылі і заявіў, што да бяды ў Стаўбцах прывялі праблемы з парадкам і дысцыплінай.

Па яго словах, у беларускіх школах поўны бардак і таму на поўную катушку трэба спытаць найперш са старшыні райвыканкама і міністра адукацыі. Было таксама запатрабавана звярнуць увагу на месцы з масавым знаходжаннем людзей, а ва ўстановах адукацыі навесці “жалезную дысцыпліну”. Словы спачування родным і блізкім загінулых суайчыннікаў выказала толькі галіновае міністэрства, а на іх пахаванні ў райцэнтры прыйшлі прадстаўнікі мясцовых улад. Рэакцыя іншых высокапастаўленых чыноўнікаў на стаўбцоўскую трагедыю была прадказальнай. З розных кабінетаў пайшлі каментарыі, што вінаваты ў тым, што адбывалася раніцай у двух школьных класах, найперш … камп'ютары і негатыўны ўплыў інтэрнэту на дзяцей.

А з прэзідэнцкай Адміністрацыі пайшлі ўказанні на тое, каб адараваць хлопчыкаў і дзяўчат ад манітораў, дзе нібыта занадта шмат негатыўнай інфармацыі. Як быццам у рэальным жыцці ў нас усё інакш. Няма п'яніц на вуліцах, не закрываюцца ў глыбінцы праблемныя прадпрыемствы, а калгасы выплочваюць у тэрмін сваім працаўнікам дастойныя зарплаты, у раёнах сотні і тысячы “дармаедаў” знайшлі сабе работу. З іншага боку – які бардак у школах, калі там створаны і працуюць піянерскія і камсамольскія арганізацыі, апошняя, праўда, цяпер называецца БРСМ. Для старэйшых вучняў рэгулярна праводзяць інфармацыйныя гадзіны, а цяпер яшчэ і Школы Актыўнага Грамадзяніна сталі паўсюдна працаваць.

Як быццам, у школах з выхаваннем і ідэалагічнай апекай падрастаючага пакалення сістэма працы выбудавана, розныя псіхолагі, сацработнікі, выхавальнікі гэтым займаюцца. Але ж у душу кожнага маладога чалавека не заглянеш. З іншага боку, ужо афіцыйна прызнана, што ў 48 беларускіх рэгіёнах напружаная сітуацыя на рынку працы. Моладзі з глыбінкі там няма чаго рабіць, з дэпрэсіўных малых гарадкоў, пасёлкаў трэба з'язджаць, бо на радзіме няма ніякіх светлых перспектыў. Што датычыць бяды ў Стаўбцах, па гарачых слядах ніхто не высветліў матывы, якія прымусілі юнака пайсці на страшнае злачынства.

Нават калі ў гэтай школе была б прафесійная ахова і сучасныя металашукальнікі з рамкай на ўваходзе, гэты забойца мог бы тады дзейнічаць па-іншаму, але ўсё роўна дабіўся б пастаўленай мэты. Няшчаснага вучня 10-га класа, які зламаў свой лёс і прынёс гора многім іншым, аказваецца, у туалеце школы пару гадоў назад збілі. Магчыма, у гэтым адна з галоўных прычын крывавай трагедыі. На жаль, ва ўсе часы сярод маладых людзей былі канфлікты, высвятлялі яны тады адносіны паміж сабой часта і жорсткім чынам, біліся вуліца на вуліцу з “чужакамі”. Тады ніхто пра інтэрнэт і не ведаў. Нікуды ад гэтага не дзецца, тым больш, што выпадак у Стаўбцах выключны, бо гэты хлопец ні на каго не злаваўся, ні з кім не канфліктаваў, вучыўся добра.

У нашы дні, сапраўды, ужо нічога нельга схаваць. Людзі сталі іншыя, час больш дынамічны, а многія суайчыннікі сярод нас сталі больш жорсткімі. Даволі жорсткія адносіны да людзей ідуць з самага верху, наша краіна засталася адзінай на кантыненце, дзе прымяняецца смяротнае пакаранне. І што вы думаеце, падлеткі гэтага не бачаць, не заўважаюць, а ў дарослых, бывае, страчваюцца даверлівыя адносіны з пасталеўшымі дзецьмі. У любым выпадку праблема тут значна шырэйшая, каб прыкрычаць аб навядзенні “парадку” і адмовіцца, як летась, ад распрацоўкі закону пра хатні гвалт. Шчаслівае будучае будзе мець толькі тое грамадства, у якім пануюць сярод людзей светлыя пачуцці, а не звярыная агрэсія і жорсткасць.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 28.02.19 | | | | Пятніца 01.03.19 | | | | Субота 02.03.19 | | | | Нядзеля 03.03.19 | | | | Пн.04 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | +1 | +5 | +2 | -1 | -6 | -3 | -4 | -6 | -6 | -2 | -3 | -4 | -4 | +1 | 0 | 0 |
| Ціск | 735 | 730 | 728 | 727 | 729 | 733 | 738 | 742 | 745 | 746 | 747 | 746 | 744 | 742 | 740 | 738 | 735 |
| Вецер м/сек | 5 | 5 | 6 | 7 | 8 | 8 | 8 | 6 | 5 | 5 | 4 | 4 | 6 | 6 | 7 | 5 | 6 |
| | З | З | Пн-З | Пн-З | Пн-З | Пн | Пн | Пн | Пн | Пн | Пн-З | З | З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд-З |
| Вільготнасць | 93 | 100 | 80 | 73 | 89 | 86 | 41 | 47 | 64 | 60 | 32 | 51 | 72 | 81 | 59 | 67 | 89 |

## Дзень за днём

**А. Лукашэнка павялічыў колькасць пагранічнікаў. Нацыянальны банк захаваў стаўку рэфінансавання на ўзроўні 10 % гадавых. На АЗС "Беларуснафты" зарадка электрааўтамабіляў з II квартала стане платнай. Дэпутат парламента Алена Анісім пойдзе на прэзідэнцкія выбары з-за актывізацыі ненавіснікаў Беларусі. ЕС спрашчае візавы рэжым для кароткіх паездак. У Беларусі ўвялі плату за правядзенне вулічных акцый. Са студэнцкай вёскі часова выселілі каля 4 тысяч студэнтаў 5 ВНУ. У Курапатах зноў разбілі лаву Клінтана. На "Мінскай лыжні" ўпершыню правялі біятлонныя гонкі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Еўрасаюз адхіліў прапанову парламента Англіі аднавіць перамовы аб змяненні дагавора аб "Брэкзіце", у лепшым выпадку выхад брытанцаў з ЕС адкладуць.

**Венесуэла.** Вядучыя краіны Еўропы прызналі афіцыйна лідара апазіцыі Х. Гуайдо часовым прэзідэнтам краіны, узурпатар Н. Мадура пагразіў грамадзянскай вайной.

**Германія.** Глава МЗС Х. Мас абвінавацiў Расію, што яна парушыла дагавор аб ліквідацыі ракет сярэдняй і малой далькасці, якія прадстаўляюць найбольшую пагрозу ўсяму свету.

**Ізраіль.** Глава кампаніі AE Biotechnoloqies Ltd Дан Эрыдор пацвердзіў, што вучоныя краіны праз год створаць недарагі прэпарат для лячэння раку без пабочных эфектаў.

**Украіна.** У выпадку свайго перавыбрання на пасаду прэзідэнта П. Парашэнка паабяцаў халодны мір з Расіяй і ў 2024 годзе падаць заяўку на членства краіны ў Еўрасаюзе.

**Венесуэла.** У Маскву ў аэрапорт Унукава з Каракаса вярнуўся загадкавы самалёт Boeing 777, на ім маглі вывезці 20 тон золата з золатавалютных рэзерваў краіны.

**Сірыя.** Пасля перамогі дыктатара Б. Асада ў грамадзянскай вайне нават лаяльныя да яго сірыйцы пачалі скардзіцца на дэфіцыт паліва і ежы, перабоі з падачай электраэнергіі.

**Расія.** Пасля анексіі Крыма даходы расіян скараціліся на ўзровень 2009 года, рэзка падаражэлі асноўныя тавары і паслугі, сёлета інфляцыя расце рэкорднымі тэмпамі.

**Італія.** Прэзідэнт С. Маттарэла падпісаў закон аб зніжэнні пенсійнага ўзросту з 66 год (жанчыны) і - 67 (Мужчыны) да 62 гадоў для абодвух палоў пры стажы працы 38 гадоў.

**Расія.** У зале пасяджэнняў Савета Федэрацыі ўпершыню арыштавалі 32-гадовага сенатара Р. Арашукава за арганізацыю двух заказных забойстваў, стварэнне злачыннай групоўкі.

**Ісландыя.** Эксперты Global Finance назвалі краіну самай бяспечнай у свеце з-за найменшых пагроз для жыцця грамадзян, верагоднасці войнаў і прыродных катастроф.

**Латвія.** Нацыянальны савет па электронных СМІ на 3 месяцы забараніў рэтрансляцыю тэлеканала "Россия" за ненавісную прапаганду супраць Украінскай дзяржавы.

**Расія.** У РФ пры Пуціне, як заявіў пісьменнік У. Сарокін, пануе стагнацыя і такая ж змрочная сітуацыя, як перад распадам СССР, мы адсталі ад Еўропы на сотню гадоў.

**ЗША.** У 5 штатах краіны аб'явілі надзвычайнае становішча з-за анамальна моцных халадоў да мінус 53 і снежных бур, загінулі дзясяткі людзей, закрыліся школы.

**Егіпет.** Пасля 9 гадоў працы майстры-рэстаўратары і эксперты аднавілі грабніцу фараона Тутанхамона з сучаснай сістэмай вентыляцыі і аховай ад турыстаў-марадзёраў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Расійскі пасол М. Бабіч пацвердзіў, што ў адказ на выхад ЗША з дагавора РСМД Расія не будзе размяшчаць свае ракеты на тэрыторыі Беларусі, бо гэта не патрабуецца.

**Мазыр.** Раніцай невядомы паведаміў аб мініраванні будынка фінансавай міліцыі і Дзяржаўтаінспекцыі, з суседняга абласнога ліцэя эвакуіравалі 248 чалавек, раней "бомбу" падклалі "Белавії".

**Мінск.** Спакойна жыць беларускаму кіраўніку, як папярэдзіў палітолаг А. Класкоўскі, маскоўскія СМІ не дадуць, каб дабіцца большай паслухмянасці за меншыя грошы.

**Астравец.** Літоўскія спецслужбы заявілі, што Беларусь пасля запуску напрыканцы года 1-га энергаблока БелАЭС змо-жа абысці забарону на пастаўкі электраэнергіі ў Літву.

**Барысаў.** Буйнейшы айчынны банк "Беларусбанк" прыпыніў выдачу льготных крэдытаў па 1,9 % гадавых на набыццё легкавых аўтамабіляў Geely беларускай зборкі.

**Жлобін.** Гомельская дыстанцыя грамадзянскіх збудаванняў пачала работы па мадэрнізацыі пуці, каб сёлета пусціць электрычкі па маршруце да Светлагорска.

**Мінск**. План "Мінскнаш" у Крамля ёсць, як заявіў паліттэхнолаг В. Шкляраў, але ён рызыкоўны і Расія моцна паламала зубы аб украінскае пытанне, яшчэ адзін не пацягне.

**Лунінец.** Следчыя арыштавалі 34-гадовую жыхарку райцэнтра, якая, ведаючы пра вірус СНІДа, заразіла пасля палавых кантактаў яшчэ трох мужчын, яшчэ 5 чакаюць аналізаў.

**Гомель.** З СШ № 55 эвакуявалі 112 чалавек пасля з'яўлення на сайце паведамлення аб закладзенай бомбе, у той дзень 16-гадовы "мінёр" паўтарыў такое ў гімназіі Гродна.

**Лоеў.** Улады запланавалі ў раёне 8 "дзён цвярозасці" без продажы гарэлкі, алкаголь і піва ў такія дні будуць прадаваць толькі ў кафэ на разліў, выключэнне – для пахарон, вяселляў.

**Мінск.** З-за аварыі днём на 25-м км МКАД на 50 мінут спыніўся рух грамадскага транспарту адразу на 9 аўтобусных маршрутах ад праспекта Дзяржынскага да метро.

**Пінск.** Эканамічны суд Брэсцкай вобласці спыніў справу 80-гадовай пенсіянеркі за "незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць" – продаж пакетаў на рынку.

**Мсціслаўль.** З-за атраўлення пасля выпіўкі невядомай вадкасці ў вёсцы Каліноўка на другі дзень памерлі двое мужчын, яшчэ два сабутэльнікі апынуліся ў рэанімацыі раённай бальніцы.

**Магілёў.** У вёсцы Вендраж супрацоўнікі аховы прыроды затрымалі траіх паляўнічых-браканьераў з аўтамабілем, якія незаконна забілі дзікага кабана, адным з затрыманых аказаўся егер.

**Касцюковічы**. У раённым цэнтры 19-гадовы бацька збіў нованароджанага месячнага сына за тое, што малы плакаў і не даваў спаць, не выключана, што дзіця забяруць з гора-сям'і.

# У ЕС вырашылі павысіць цану шэнгена да 80 еўра. Ці закране гэта беларусаў?




■ nn.by

**Сёння Еўрапарламент і Рада Еўропы дасягнулі папярэдняй дамовы па прапанове Камісіі па мадэрнізацыі візавай палітыкі ЕС. Акрамя спрашчэння працэдуры атрымання візы, змены ўключаюць у сябе і падаражанне шэнгенскай візы з 60 да 80 еўра. Tut.by разбіраўся, ці значыць гэта, што «шэнген» для беларусаў падаражэе да 80 еўра ў хуткім часе.**

Новая візавая палітыка ЕС уключае ў сябе некалькі важных пунктаў. Як тлумачыцца на сайце Еўракамісіі, адзін з іх — больш гнуткія працэдуры па атрыманні візы. У прыватнасці, вандроўнікі змогуць падаваць свае заяўкі за 6 месяцаў да запланаванай паездкі (9 месяцаў для маракоў) замест бягучых 3 месяцаў, і ў большасці выпадкаў — непасрэдна ў краіне свайго пражывання. Непаўналетнія ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў могуць быць вызваленыя ад платы за візу.

Таксама плануецца, што будуць выдавацца шматразовыя візы з больш доўгім тэрмінам дзеяння: дзякуючы ўвядзенню агульных абавязковых правілаў, частыя турысты са станоўчай гісторыяй віз могуць атрымаць шматразовую візу з тэрмінам дзеяння ад 1 года да 5 гадоў.

Але самае важнае змяненне закране кошт шэнгенскай візы — яна падаражэе з 60 да 80 еўра.

Новыя правілы ўступяць у сілу яшчэ не хутка — працэдура даволі працяглая. Сёння пагадненне было пацверджана дзяржавамі-сябрамі ЕС і цяпер павінна быць ухвалена таксама Еўрапейскім парламентам. Пасля гэтага Еўрапейскі парламент і Рада павінны афіцыйна прыняць узгодненыя змены (гэта адбудзецца ў бліжэйшыя месяцы). Пасля гэтага прыняты тэкст будзе апублікаваны ў афіцыйным часопісе Еўрапейскага Саюза, і толькі праз 6 месяцаў пасля апублікавання новыя правілы ўступяць у сілу.

Да таго ж сёння Беларусь і ЕС амаль дасягнулі дамоўленасці аб спрашчэнні візавага рэжыму. Кіраўніца прадстаўніцтва ЕС у Беларусі Андрэа Віктарын заявіла, што ў гэтым пытанні «застаўся апошні крок».

Пасля падпісання гэтага дакумента, нагадаем, кошт «шэнгену» для беларусаў знізіцца да 35 еўра (пры афармленні візы ў пасольстве). Нават калі новыя візавыя правілы ЕС паспеюць уступіць у сілу раней, то пасля падпісання пагаднення кошт шэнгенскай візы для беларусаў знізіцца з 80 да 35 еўра.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На тэрыторыі "Віцебскмясамалпрама" пры атрыманні хабару ў суме каля 150 тыс. рублёў затрымалі гендырэктара з былым намеснікам і кіраўніка "Віцебскторга".

**Сянно.** Работнікаў сыраробнага цэха "ОршаСырЗавод" на 2 месяцы адправілі ў вымушаны прастой, 123 супрацоўнікам філіяла пагражае закрыццё і звальненне з прадпрыемства.

**Ушачы.** Напярэдадні сяўбы калгас "Кублічы" застаўся без галоўнага агранома і галоўнага бухгалтара, недахоп спецыялістаў і кадраў адчуваюць яшчэ 4 гаспадаркі і райветстанцыя.

**Пастаўы.** Два сыры "Пікарына" і "Мармуровы", масла мясцовага малочнага завода сталі пераможцамі нацыянальнага конкурсу "Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь 2018 года".

**Орша.** Будаўнікі з Пінска пачалі мантаж металаканструкцый буйной сучаснай фермы "Купалінка" на 2250 галоў статку коштам 50 млн. рублёў для агракамбіната "Юбілейны".

**Полацк.** У аграгарадку Ветрына ўрачыста адкрылі помнік чатыром воінам 9-га асобнага аўтамабільнага батальёна, якія загінулі падчас баявых дзеянняў у Афганістане.

**Браслаў.** У ліку 4-х раёнаў краіны азёрны край разам з Міёрскім, Мядзельскім і Гродзенскім уключылі ў праект турыстычнага кластэра пры падтрымцы Польшчы.

**Глыбокае.** Супраць 40-гадовага вадзіцеля з райцэнтра распачалі крымінальную справу за зліў сабе 2 тон саляркі шляхам махінацый са спідометрам пры перавозках грузаў.

**Талачын.** Падчас зварачных работ у аграгарадку Славені ўзарвалася металічная бочка, зваршчык атрымаў адкрытую траўму чэрапа і памёр крыху пазней у райбальніцы.

**Віцебск.** На працягу месяца ў грамадскім транспарце горада "Віцебскаблаўтаранс" увёў ільготныя білеты для маніторынга, колькі сродкаў ён губляе ад такіх перавозак.

**Міёры.** Установе аховы прыроды "Ельня" перадалі 3-ці заказнік рэспубліканскага значэння "Жада" і помнікі прыроды "Чыстая дубрава" і "Стайкі" плошчай 23,4 гектары.

**Верхнядзвінск.** Ваенны аркестр Полацкага гарнізона выступіў з цікавай канцэртнай праграмай у Доме культуры гарпасёлка Асвея, яго афіцэры правялі сустрэчу з жыхарамі.

**Полацк.** Каля 10 гадзін вечара 57-гадовы мужчына на паспрабаваў перайсці вуліцу па-за межамі пешаходнага пераходу і быў збіты насмерць 21-гадовым кіроўцам іншамаркі.

**Докшыцы.** У кінаканцэртнай зале "Іскра" зноў правялі шоу сярод 9 юных талентаў "Лепш за ўсіх", самы юны з іх, 3-гадовы Мікіта Нехвядовіч, здзівіў усіх ведамі пра павукоў.

**Віцебск.** На полі мясцовага ЦСК АБФФ вырашыла правесці ў нядзелю 26 мая фінальны матч розыгрышу Кубка Беларусі па футболе, куды мае шанцы прабіцца і ФК "Віцебск".

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Вялікія штрафы не спыняюць жыхароў раёна займацца самагонаварэннем!

**А.І. Гігола,**
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС*

**За 12 месяцаў 2018 года супрацоўнікамі Глыбоцкага РАУС на тэрыторыі абслугоўвання за парушэнне арт. арт. 12.43 і 12.27 КоАП Рэспублікі Беларусь у дачыненні да грамадзян складзена 52 адміністрацыйныя пратаколы, з незаконнага абароту канфіскавана 744 літры фальсіфікаванай алкагольнай прадукцыі (з якіх 590 літраў самагону і самагоннай брагі) і 7 самагонных апаратаў.**

За названыя правапарушэнні судом Глыбоцкага раёна накладзена адміністрацыйных спагнанняў у выглядзе штрафаў на агульную суму 3 923.5 рублёў. Найбольшая колькасць правапарушэнняў у сферы незаконнага абароту алкагольнай прадукцыі было звязана з вырабам, захоўваннем і рэалізацыяй самагону і самагоннай брагі (30 адміністрацыйных пратаколаў). Санкцыяй ч. 2 арт. 12.43 КоАП Рэспублікі Беларусь «Выраб або набыццё моцных алкагольных напояў (самагону), паўфабрыкатаў для іх вырабу (брагі), захоўванне апаратаў для іх вырабу» прадугледжана адміністрацыйнае спагнанне ў выглядзе штрафу ў памеры ад 5 да 30 базавых велічынь з канфіскацыяй самагону, паўфабрыкатаў і апаратаў. Аднак, значны памер штрафаў не спыняе некаторых жыхароў горада і раёна, і яны працягваюць зарабляць на незаконнай продажы алкагольнай прадукцыі.

Калі Вам што-небудзь вядома аб фактах незаконнага вырабу і рэалізацыі алкагольнай прадукцыі, месцах збору асоб асацыяльных паводзін, а таксама грамадзянах, якія парушаюць грамадскі парадак у стане алкагольнага ап'янення – паведаміце па тэлефоннаму лінію УУС Віцебскага аблвыканкама «П'янству – не» (8-0212) 60-84-72 або ў аператыўна-дзяжурную службу Глыбоцкага РАУС па тэлефонах - 102, 2-27-02, 597 21 74 МТС; 314 89 02 Велком.

# Маючы зносіны з жывёламі – памятай аб шаленстве

**В. М. Краўчонак,**
*памочнік урача-паразітолага Глыбоцкага РЦГЭ*

**Шаленства – гэта адно з самых небяспечных інфекцыйных захворванняў, якое выклікаецца вірусам і перадаецца іншым жывёлам і людзям са слінай хворых жывёл – пры ўкусах, драпінах, а таксама забруджванні слінай жывёлы пашкоджанай скуры і слізістых абалонак.**

Хварэюць як хатнія, так і дзікія жывёлы (практычна ўсе віды наземных млекакормячых, у першую чаргу – пажадлівыя жывёлы). Могуць таксама хварэць птушкі, грызуны, лятучыя мышы.

У Віцебскай вобласці за 2018 год выяўлена 75 шалёных жывёл (за 2017 год – 89 выпадкаў). У **Глыбоцкім раёне** за 2018 год хворых на шаленства жывёл не зарэгістравана (за аналагічны перыяд 2017 года – 1 выпадак у хатняй сабакі).

Нягледзячы на тое, што на працягу апошніх гадоў на тэрыторыі раёна рэгіструецца нязначная колькасць выпадкаў шаленства сярод жывёл, сітуацыя мае няўстойлівы характар. За 2018 год у раёне за медыцынскай дапамогай з прычыны ўкусаў, аслінення і абдрапвання жывёламі звярнулася 80 чалавек, у т. л. дзяцей да 18 гадоў – 24 (за 2017 год – 99, у т. л. дзяцей да 18 гадоў – 34).

Штогод дзеці складаюць каля 30% ад тых, хто звярнуўся за медыцынскай дапамогай з нагоды кантактаў з жывёламі. Часцей за ўсё дзеці церпяць ад сабак і катоў, але сустракаюцца ўкусы хамякоў, пацукоў, мышэй. Дзяцей кусаюць уласныя хатнія жывёлы, альбо жывёлы сяброў, родных. Безнаглядныя жывёлы складаюць не больш за 20-30% ад усіх укусаў. За 2018 год ад укусаў сабак пацярпела 21 дзіця, ад катоў – 2, ад сельскагаспадарчых жывёл – 1, (за 2017 год ад укусаў сабак –29, ад катоў – 5).

Зносіны з жывёламі карысны дзецям, яны далучаюць да дабра і клопату пра бліжніх, але жывёлы заўсёды застануцца жывёламі. Нават будучы самымі цярплівымі і спакойнымі, жывёлы могуць праявіць агрэсію і пакусаць дзіцяці, калі ён адбірае ў жывёл ежу, гуляючы з жывёлай, цягне яго за хвост або поўсць, тузае за лапу, прычыняючы боль.

З 24 дзяцей, якія звярнуліся за медыцынскай дапамогай у 2018 годзе, 19 дзяцей (79,2% ад тых, хто звярнуўся) сваё траўмы справакавалі. Для параўнання: з 34 дзяцей, якія звярнуліся за медыцынскай дапамогай за 2017 год, траўмы справакавалі 29 дзяцей – 85,3%.

Улічваючы, што шаленства практычна немагчыма вылечыць, бацькам трэба катэгарычна забараніць дзецям мець зносіны з дзікімі і бяздомнымі жывёламі, нават калі яны здаюцца прыязнымі, а таксама тлумачыць дзецям з ранняга ўзросту правілы паводзін з дамашнімі жывёламі.

Заўсёды сачыце за сумеснымі гульнямі жывёл і дзяцей, каб выключыць напад і ўкусы жывёл. У тых жа выпадках, калі кантакту з жывёлінай пазбегнуць не ўдалося, неабходна як мага хутчэй самастойна правесці першасную апрацоўку раны: старанна прамыць параненую паверхню на працягу не менш за 15 хвілін струменем вады з мылам, край раны апрацаваць 5% настойкай ёду і неадкладна звярнуцца ў медыцынскую ўстанову. Толькі ўрач (хірург, траўматолаг) ацэніць рызыку магчымага заражэння вірусам шаленства і прызначыць пры неабходнасці прывівачны курс.

**Вылечыць нельга, можна папярэдзіць!**

Прышчэпкі і па сённяшні дзень застаюцца адзіным надзейным сродкам абароны людзей ад захворвання шаленствам. Аднак эфектыўнасць імунізацыі напрамую залежыць ад своечасовага (на працягу сутак) звароту за медыцынскай дапамогай.

Ні ў якім выпадку не варта адмаўляцца ад назначанага лячэння і самавольна спыняць яго. Гэта можа прывесці да трагічных наступстваў. Вельмі важна не забіваць хатнюю жывёліну, якая пакусала або падрапала чалавека, з мэтай захавання магчымасці арганізацыі за ім 10-ці дзённага ветэрынарнага назірання.



Бацькі, памятайце! Ваша дзіця будзе больш надзейна абаронена ад шаленства, калі вы навучыце яго правільным зносінам з жывёламі. Ну а калі ўсё-такі здарылася, што дзіця ўкусіла ці падрапала якая-небудзь жывёла, вашы своечасовыя і правільныя дзеянні дапамогуць прадухіліць бяду.

# У Глыбокім жанчына на легкавушцы ўрэзалася ў ліхтарны слуп і плот, яна ў бальніцы



**Вечарам 20 лютага 34-гадовая кіроўца «Peugeot 206» спачатку сутыкнулася з ліхтарным слупом. А затым урэзалася ў плот.**

ДТЗ адбылося ў 20:30, калі легкавушка ехала па вуліцы Чапаева ў напрамку вуліцы Леніна. Каля дома №33 аўтамабіль занесла, пасля чаго ён з'ехаў у правы па ходу руху кювет і наляцеў на светлавую апору, а затым — заборную агароджу.

У выніку дарожна-транспартнага здарэння жанчына атрымала траўмы і была шпіталізаваная ў траўматалагічнае аддзяленне Глыбоцкай цэнтральнай раённай бальніцы, пра гэта паведамілі ў абласной ДАІ.

*НІВ.*

# Адмова ад пластыку, азеляненне, экспарт паслуг – Русы абазначыў задачы на 2019 год для Мінпрыроды

**Намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіл Русы сёння ў час падагульняючага пасяджэння калегіі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя абазначыў ключавыя задачы на 2019 год для міністэрства, сярод іх – актыўны ўдзел у распрацоўцы праграмы па адмове ад пластыкавай тары, азеляненне, абыходжанне з адходамі, нарошчванне экспарту паслуг прадпрыемстваў у сістэме міністэрства, перадае карэспандэнт БелТА.**

"Узнікла пытанне – вывад з абароту пластыкавай тары. На першым этапе пастаўлена пытанне замены пластыкавых бутэлек шклянымі, у нас ёсць сыравіна для гэтага і заводы", – адзначыў Міхаіл Русы. Ён звярнуў увагу, што шкляную тару можна перапрацоўваць і паўторна выкарыстоўваць, тым самым разгружаючы палігоны адходаў.

Гэтай тэмай займаецца шэраг міністэрстваў, але рэальнага вырашэння пытання няма, канстатаваў віцэ-прэм'ер. "Трэба браць усе такія пытанні і адпрацоўваць", – даручыў віцэ-прэм'ер.

Паводле слоў Міхаіла Русага, бягучы год у краіне праходзіць пад эгідай азелянення. Таму павінна быць зразумела, дзе будзе ісці азеляненне, якую дапамогу могуць аказаць грамадскія аб'яднанні, як наладжана ўзаемадзеянне з Міністэрствам лясной гаспадаркі па пасадачным матэрыяле. "Трэба дабавіць яшчэ і навядзенне парадку. Гэта кожны год павінна быць як аксіёма", – падкрэсліў ён.

Увагі патрабуе работа па абыходжанні з адходамі, асабліва з небяспечнымі.



Закранаючы падрыхтоўку нарматыўнай прававой базы, Міхаіл Русы даручыў больш грунтоўна прапрацоўваць праекты дакументаў. "Гэта адзін з важнейшых элементаў, потым "развязваем вузлы" па гэтых дакументах – дрэнна прадуманых і падрыхтаваных, неадаптаваных і не прайшоўшых экспертызу, – заўважыў ён. – Чалавек прывык да аднаго нарматыву, раптам з'явіўся другі... Павінна быць пастаянства. Папрасіў бы, каб гэтыя пытанні ўзялі на кантроль".

Адносна экспарту паслуг віцэ-прэм'ер звярнуў увагу, што гэту работу могуць актывізаваць Белгідрамет, геалагічныя і іншыя службы. "Трэба хаця б зраўнаваць аб'ёмы экспарту і імпарту паслуг, каб не было адмоўнага сальда", даручыў ён.

*БелТА*

# Ці можна прысвяціць верш Копцеўскай гары?

## Аказваецца, можна, і ён апублікаваны яшчэ ў 1860-м годзе

■ **Уладзімір Скрабатун**

**Парадаваў чарговай знаходкай краязнаўца Кастусь Шыталь, які мае цярпенне, а таксама захапленне – корпацца праз Інтэрнэт у розных лічбавых архівах і бібліятэках Польшчы, а таксама Вільні.**

Што датычыць Вільні, то яна, за невялікім выключэннем, заўсёды была для Глыбокага "абласным", г.зн. ваяводскім або губернскім цэнтрам, а ў даўнія часы і сталіцай беларускай дзяржавы – Вялікае Княства Літоўскае. У Вільні шмат чаго можна "накапаць" пра Глыбокае!

Ці можна прысвяціць верш Копцеўскай гары? Пытанне ж – рытарычнае! Любы таленавіты паэт – здольны быў бы напісаць. Дайце толькі натхненне! Але ж – ніхто так і не напісаў за апошнія 160 гадоў. Сумны відарыс з надмагільнымі помнікамі не натхняе сёння? А 160 гадоў таму? Копцеўская гара тады, натуральна, не была настолькі "заселеная", як цяпер. На ёй знаходзілася не толькі знаёмая нам сёння мураваная капліца св. Іллі (1805), вежа-калона з бацяновым гняздом, але, паводле старых малюнкаў і здымкаў, не мала іншых пабудоў, перадусім, драўляных: званіца, брама і інш.

У 1860-м годзе паэт Антоній Круман (Kruman Antoni) у кнізе **"Piewiec z nade Dzwiny"**, Wilno, 1860, змясціў верш "Пейзаж", які прысвечаны Копцеўскай гары.

Для верша "Пейзаж" аўтарам зроблены падрадковы пераклад на беларускую мову, ён змешчаны ніжэй. Рабіць літаратурны пераклад верша – аўтар не ставіў за мэту. Хаця, мяркую, не кепска і так атрымалася. Для надзейнасці аўтар спісаўся з літаратарам Віталём Варанавым, які жыве ў Торуні і штодня размаўляе папольску, удакладніў пэўныя моманты.

Зразумела, што паэт можа напісаць і цалкам уяўны вобраз ці пейзаж. Аднак, калі прачытаеш "Пейзаж", ствараецца цвёрдае перакананне, што аўтар верша напісаў пейзаж, як кажуць, з натуры, і ён – рэальны.

Якой была Копцеўская гара 160 гадоў таму? Паразважаем над некаторымі цытатамі.

**Наўкола зефірам дыхаюць ружы.** Гэта значыць, што 1860-я гг ля пахаванняў расло шмат ружаў, якія напаўнялі водарам гару. Цяпер, здаецца, такой моды няма. Напэўна, можна яшчэ знайсці адзінкавыя пахаванні, дзе растуць ружы. Аднак, дакладна, памятаю адну магілу з ружамі – магіла барона Мюхгаўзена. Калі яна была ўпершыню знойдзеная, на ёй існавала чыгунная агароджа, а ў ёй раслі ружы. Цяпер – усё выкарчавалі, а агароджу здалі на металалом, а сам надмагільны чыгунны крыж пафарбавалі ў жоўты колер. Ашалець!

Зразумела, што драўнінны састаў у 1860-м быў адрозны ад сённяшняга: **дзве сасны старыя... дзве тапалі пекных... каштан-сцярвятнік.** Цяпер там засталіся рэдкія дрэвы, пасля таго, як гадоў 10 таму зрабілі татальную санітарную рубку.

Аднак радкі пра **бітую дарогу і паштовыя бярозкі** навялі на думку, што сённяшняя вуліца Горкага – частка старога паштовага тракту з Дзісны да Вілейкі – была абапал абсаджаная бярозамі. З гэтай нагоды мне згадваецца 1959 год, калі бацька нарэшце дабудаваў дом у Глыбокім і мы канчаткова пераехалі ў горад, а дом быў самым першым пры ўездзе ў Глыбокае. З вакна адкрывалася воку дарога ў бок Докшыц, якая была абсаджаная неймаверна вялікімі бярозамі. У два абдымы! Тады яны падаваліся мне, у маім 4-гадовым узросце, гігантамі. Стаялі суцэльнай высокай белай сцяной, а сам брукаваны гасцінец пралягаў, як бы ў каньёне. Бярозы называлі, чамусьці, кацярынінскімі. Хаця сама Кацярына наўрад ці тут калі ехала і загадала іх пасадзіць. Праўдападобна, гэтыя бярозы ўжо дасягнулі максімуму свайго веку – 100-150 гадоў. Яны ўжо былі небяспечныя: унутры адна парахня. Іх спілавалі да сярэдзіны 1970-х.

Гэта алея пачыналася ад чыгуначнага пераезду і ішла да самых Докшыц. І колькі ўжо жыву – такіх агромністых бярозаў больш не сустракаў ніколі, нават у лесе, калі збіраў грыбы.



49

5.

**Pejzaż.**

Noc. Cicho, pusto wkoło na Kopciowskiéj górze,
Drzemią dwie sosny stare nad wzniosłą dzwonicą;
Księżyc blady, wesoły, podniósł czoło w chmurze
I duma nad uśpioną w cieniach okolicą.

Naokoło zefirem oddychają róże
I mnóstwo mogił, krzyżów, przed i za kaplicą,
A tutaj dwie topole pięknych grobów stróże,
A tam kasztan sępieje nad zmarłą dziewicą.

Gdy siędę w tym ogródku, gdzie pomnik i płyta:
Widzę za sobą niwy i zielone gaje,
Przed sobą bitą drogę i pocztowe brzozki.

A gdy staję na froncie, wraz mię księżyc wita,
W oczach całe Głębokie i Berezwecz staje: —
Ach! jak tu słodko dumać, tęsknić, spędzać troski.

Piewiec. I. 4

**Верш "Пейзаж" Антонія Крумана ў кнізе "Piewiec z nade Dzwiny", якая пабачыла свет у Вільні ў 1860-м годзе.**

### Пейзаж

Ноч. Ціха, пуста наўкола на Копцеўскай гары,
Дрэмлюць дзве сасны старыя над узвышанай званіцай;
Месяц бледны, вясёлы, узнёс чало ў хмару
І думае думу над засынаючай у ценях ваколіцай.

Наўкола зефірам дыхаюць ружы,
І мноства магіл, крыжоў, перад і за капліцай,
А тут: дзве таполі – пекных магіл вартаўнікі,
А там: каштан-сцярвятнік над памерлай дзеўчынай.

Калі сяду ў тым садку, дзе помнік і пліта:
Бачу за сабой нівы і гаі зялёныя,
Перад сабой – бітую дарогу і паштовыя бярозкі.

А калі стаю спераду, адразу мяне вітае месяц,
У вачах усё Глыбокае і Беразвеч паўстае:
Ах! Як тут соладка думаць, тужыць, праганяць клопаты.



**Як выглядаў паштовы тракт з Дзісны да Вілейкі – праз Забор'е, Глыбокае, Сарокі, абсаджаны бярозамі, – можна праілюстраваць гэтым здымкам, які аўтар зрабіў ля даўняга мястэчка Даўгінава па дарозе ў Маладзечанскую друкарню.** *Фота Уладзіміра Скрабатуна.*

# У Мосары жыў заснавальнік сучаснага літоўскага мовазнаўства

## Ці быў вядомы гэты факт Ёзасу Бульку? Наўрад ці, інакш бы паставіў помнік

■ **Уладзімір Скрабатун**

**Мо нават і ў самой Літве ніхто не ведае (а што ўжо казаць пра Беларусь!), а калі хтосьці і ведае, то адзін-два чалавекі, што заснавальнік сучаснага літоўскага мовазнаўства Казімір Буга (Kazimieras Būga) у 1898-1899 гг. жыў у вёсцы Мосар, што ў нашым Глыбоцкім раёне.**

Тут Буга вучыў дваіх пляменнікаў тутэйшага ксяндза Бярнотаса (Bernotas). Пра гэта пісалі ў 1958 г. Зігмас Зінкявічус і Ёнас Кабялка ў прадмове да збору твораў Бугі.

Каб зразумець веліч Казіміра Бугі для літоўцаў, то можна яго параўнаць з беларусам Яўхімам Карскім, які напісаў і выдаў 3-томную працу "Беларусы", якая складаецца з 7 кніг, разам 3000 старонак. «Беларусаў» сваіх Карскі пісаў і выдаваў на працягу 20-ці гадоў. Першы том з'явіўся ў 1903 г., апошняя кніга трэцяга тома выйшла ў 1922 годзе.

Казімір Буга (Kazimieras Būga; 6 лістапада 1879 г. в. Пажэгей Зарасайскі раён, Літва — 2 снежня 1924 год у Кёнігсбергу) — літоўскі, расійскі мовазнавец, філолаг, прафесар Пермскага (1916-1919), Томскага (1919-1920) і Ковенскага (1922-1924) універсітэтаў, адзін з самых вядомых даследчыкаў літоўскай мовы, заснавальнік Акадэмічнага слоўніка літоўскай мовы. Зрабіў вялікі ўнёсак у вывучэнне фанетычнай структуры літоўскай мовы, націскаў, граматыкі. Хоць К. Буга і пражыў нядоўгае жыццё, але зрабіў вельмі шмат. Яго можна лічыць сапраўдным стваральнікам навукі аб літоўскай мове. У 1958-1962 гадах у Вільні выдадзены трохтомнік прац К. Буга «Выбраныя працы» («Rinktiniai raštai»).

У Мосары ёсць філіял Глыбоцкага гісторыка-этнаграфічнага музея, то яго экспазіцыю можна дапоўніць некалькімі экспанатамі пра Казіміра Бугу.



Prof. K. Būga

Žymus liet. mokslininkas, kalbininkas, b. Permės universiteto profesorius.

Savant philologist, authority in the Lithuanian language, formerly professor at the University of Perm



# У студзені пачасціліся выпадкі прычынення цяжкіх цялесных пашкоджанняў і забойстваў

**А.І. Гігола,**
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС*

**Выхадныя дні звязаныя з навагоднімі і рэлігійнымі святамі, і спадарожнае пры гэтым ужыванне спіртных напояў спрыяла таму, што ў студзені б. г. пачасціліся выпадкі прычынення цяжкіх цялесных пашкоджанняў і забойстваў, якія былі здзейсненыя ў асноўным асобамі блізкага кола зносін.**

Так, у Віцебскай вобласці здзейснена 27 злачынстваў гэтага віду, найбольшая колькасць злачынстваў учынена ў г. Віцебску – 9, у Оршы, Наваполацку і Полацку– па 3. На тэрыторыі Глыбоцкага раёна ў Падсвільскім сельсавеце таксама здзейснена адно забойства.

У многіх выпадках да злачынства магло і не дайсці, калі б пацярпелыя своечасова звярталіся за дапамогай у органы ўнутраных спраў, або на тэлефон гарачай лініі для пацярпелых ад хатняга гвалту (тэл. 8-801-100-8-801).

Дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь прадугледжаны шэраг мер, якія могуць быць прынятыя, каб пазбегнуць злачынства. На тэрыторыі Глыбоцкага раёна, пры тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнай абароны насельніцтва, створаны «крызісны пакой», куды ахвяры гвалту могуць звярнуцца і пражыць у іх некаторы час.

Да асобы, якая дапускае гвалт, можа быць прыменена такая мера, як ахоўнае прадпісанне. Ахоўным прадпісаннем грамадзяніну, у дачыненні да якога яно вынесена, забараняецца:

- прадпрымаць спробы высвятляць месца знаходжання грамадзяніна (грамадзян), пацярпелага (пацярпелых) ад гвалту ў сям'і, калі гэты грамадзянін (грамадзяне) знаходзіцца (знаходзяцца) у месцы, невядомым грамадзяніну, які здзейсніў гвалт у сям'і;
- наведваць месцы знаходжання грамадзяніна (грамадзян), пацярпелага (пацярпелых) ад гвалту ў сям'і, калі гэты грамадзянін (грамадзяне) часова знаходзіцца (знаходзяцца) па-за месцам сумеснага жыхарства ці месцам знаходжання з грамадзянінам, у дачыненні да якога вынесена ахоўнае прадпісанне;
- мець зносіны з грамадзянінам (грамадзянамі), пацярпелым (пацярпелымі) ад гвалту ў сям'і, у тым ліку па тэлефоне, з выкарыстаннем глабальнай кампутарнай сеткі Інтэрнэт.

Ахоўнае прадпісанне абавязвае грамадзяніна, які здзейсніў насілле ў сям'і, часова пакінуць агульнае з грамадзянінам (грамадзянамі), пацярпелым (пацярпелымі) ад гвалту ў сям'і, жылое памяшканне і забараняе распараджацца агульнай сумеснай уласнасцю. Прымяненне дадзенай меры не цягне за сабой фінансавых страт для бюджэту сям'і.

Не апошнюю ролю ў папярэджанні злачынстваў з'яўляецца добраахвотная адмова пацярпелых ад напісання заявы для прыцягнення да адміністрацыйнай або крымінальнай адказнасці. Некаторыя церпяць знявагі, абразы, пагрозы, збіццё, пакуль не надыходзіць крытычная кропка. Вынік, як паказвае практыка, адзін – або тыран здзейсніць цяжкае злачынства, або ахвяра, ад безвыходнасці, заб'е тырана. У мэтах папярэджання злачынства, калі пасля першага разу ахвяра сумняваецца ў патрэбе звяртацца ў органы ўнутраных спраў, то хоць бы трэба звярнуцца ў медыцынскую ўстанову або фельчарска-акушэрскі пункт для фіксацыі слядоў пабояў. Менавіта гэты крок можа служыць стрымліваючым фактарам для дэбашыра, паколькі паўторнае нанясенне цялесных пашкоджанняў на працягу года можа кваліфікавацца як крымінальнае злачынства за катаванне.

У органах унутраных спраў сур'ёзнае апасенне выклікаюць няроўныя шлюбы ва ўзросце з прысутнасцю ўтрыманства, пражыванне непрацуючых дарослых сыноў з бацькамі-пенсіянерамі, а таксама нашы грамадзяне, якія працуюць у Расійскай Федэрацыі, прыезд якіх суправаджаецца шматдзённай п'янкай. Вывучэнню стану ўзаемаадносін у такіх сем'ях будзе накіравана праца ўчастковых інспектараў міліцыі ў першую чаргу і вялікая надзея, што Вы, паважаныя чытачы, не застанецеся ў баку, а прымеце ўдзел у папярэджанні цяжкіх злачынстваў супраць жыцця і здароўя грамадзян.

Аб вядомых фактах гвалту альбо супрацьпраўных паводзін Вы можаце звярнуцца на тэлефоны: 102, 22702 – кругласутачна.

# Не забывайце пра элементарныя правілы электрабяспекі

**А.Н. Ішуцін,**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА «Энерганагляд».*

Асноўная небяспека электрычнасці заключаецца ў тым, што яна нябачная, не мае паху, колеру, і выявіць яе чалавек не можа, так як для гэтага ў яго няма адпаведных органаў пачуццяў. Электрычны ток паражае раптоўна, калі чалавек аказваецца ўключаным у ланцуг праходжання току. Такая сітуацыя ўзнікае, калі чалавек датыкаецца з аднаго боку да няспраўнай ізаляцыі або металічнага прадмета, які апынуўся пад дзеяннем напружання, а з другога –да зямлі, труб цэнтральнага ацяплення і іншых заземленых прадметаў. Ніжэй прыведзены асноўныя правілы, выкананне якіх дапаможа не толькі прадухіліць няшчасны выпадак, але і будзе добрай прафілактыкай пажару ў вашым доме.

**Асноўныя правілы бяспечнага абыходжання з электрычнай энергіяй**

**1.** Выконвайце парадак уключэння электрапрыбора ў сетку: спачатку шнур падключайце да прыбора, а затым да сеткі. Адключэнне прыбора праводзіцца ў зваротным парадку.

**2.** Не ўстаўляйце штэпсельную вілку ў разетку мокрымі рукамі.

**3.** Ніколі не стаўце ўключаную ў сетку электраапаратуру на край ванны з вадой або ў непасрэднай блізкасці ад яе, каб не падвяргаць сябе смяротнай небяспецы.

**4.** Калі мыеце халадзільнік, іншыя электрабытавыя прыборы, змяняеце лямпачку або засцерагальнік, пераканайцеся ў тым, што яны адключаны ад электрасілкавання.

**5.** Не дакранайцеся да награваемай вады і сасуда пры ўключаным у сетку электранагравальніку.

**6.** Не карыстайцеся электрапрыборамі з пашкоджанай ізаляцыяй.

**7.** Не вымайце вілку з разеткі, пацягнуўшы яе за шнур. Не рамантуйце відэльцы электрапрыбораў з дапамогай ізаленты, мяняйце іх адразу, калі яны выйшлі з ладу.

**8.** Не карыстайцеся электрапрасам, пліткай, чайнікам, паяльнікам без спецыяльных негаручых падставак.

**9.** Не карыстайцеся прызначанымі для памяшканняў электрабытавымі прыборамі ў іншых месцах, дзе няма падлогі, якая не праводзіць электрычны ток. (Земляная падлога можа стаць прычынай электратраўмы.).

**10.** Не ўключайце ў разетку больш трох электрапрыбораў. У выпадку падключэння магутных энергаспажыўцоў (электрычны чайнік, тостар, прас) старайцеся не выкарыстоўваць іх адначасова.

**11.** Не пакідайце без нагляду ўключаныя ў сетку электранагравальныя прыборы.

**12.** Не выкарыстоўвайце паперу або тканіну ў якасці экрана або абажура электралямпачкі.

**13.** Не спрабуйце адрамантаваць перагарэўшыя пробкі з дапамогай самаробнага «жучка».

**14.** Сыходзячы з дому, выключайце святло і электрапрыборы.

Памятайце, што дакранацца да абвіслых або ляжалых на зямлі правадоў заўсёды небяспечна – можна трапіць пад дзеянне электрычнага току, у выніку пашкоджанняў на лініях электраперадач.

Небяспечна залазіць на дахі дамоў і будынкаў, дзе паблізу праходзяць электрычныя правады, на апоры (слупы) паветраных ліній электраперадач; не меншую небяспеку ўяўляюць гульні пад такімі лініямі. Ведайце, што пранікненне дзяцей, падлеткаў у памяшканні з размеркавальнымі прыладамі, сілавымі шчыткамі, на трансфарматарныя падстанцыі пагражае смяротнай небяспекай.



**Электрычная энергія можа стаць прычынай пажару пры наступных абставінах:**

- кароткім замыканні, якое здараецца, калі парушаецца цэласнасць ізаляцыі і адбываецца злучэнне двух агаленых правадоў аднаго электрычнага кабеля. Пры гэтым назіраецца магутнае іскрэнне;
- самаўзгаранні ўключанай у сетку бытавой відэа-аўдыё-радыёэлектроннай апаратуры (тэлевізараў, кампутараў);
- дрэнным кантакце ў відэльцах і электрычных разетках – у гэтым выпадку адбываецца іх нагрэў з наступным узгараннем электраправодкі;
- неасцярожным абыходжанні з прасам, электрычнай плітой, электранагравальнымі прыборамі, асабліва самаробнымі;
- рамонце электрапрыбора, не адключанага ад сеткі;
- сушцы бялізны над электранагравальным прыборам або пры бескантрольным гатаванні ежы;

**Прыкметы магчымага загарання электрапрыбораў**

- Дым або пах гарэлай гумы (пластыка, дрэва).
- Моцны нагрэў асобных частак або прыбора ў цэлым.
- Іскрэнне, успышкі святла, трэск, гудзенне ў прыборы. Пры з'яўленні любой з гэтых прыкмет неабходна неадкладна адключыць прыбор ад электрычнай сеткі.

**УВАГА!**

У выпадку ўзгарання электрапрыбора варта яго абясточыць і накрыць шчыльнай тканінай для спынення доступу кіслароду ў зону гарэння. Гарачыя электрапрыборы, якія знаходзяцца пад напругай, нельга тушыць вадой! Выкананне вышэй пералічаных правілаў захавае вас ад многіх нечаканых бед.

## МНС інфармуе

**на 26.02.2019 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 117;
Гібель людзей – 20, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 4;
Гібель людзей – 0, з іх дзяцей няма

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

# Жыхар Наваполацка «кідаў» мінчукоў, якія прадавалі дарагія смартфоны

**Да перадачы ў суд рыхтуецца крымінальная справа ў дачыненні да 29-гадовага жыхара Наваполацка, якога абвінавачваюць у махлярстве — замест аплаты за тэлефоны ён перадаваў прадаўцам у Мінск «ляльки».**

Навапалачанін шукаў у інтэрнэце аб'явы аб продажы дарагіх смартфонаў у Мінску і дамаўляўся з прадаўцамі, што яны перададуць гаджэт у Наваполацк пры дапамозе маршрутнага таксі.

Грошы за тавар ён абяцаў перадаць у Мінск з тым жа кіроўцам. Аднак, забраўшы ў кіроўцы маршрутнага таксі тэлефон, хлопец аддаваў яму скрутак, у які замест купюр запіхваў лісты паперы і іншыя прадметы.

У выніку замест аплаты прадавец у сталіцы атрымліваў «лялькy». Жыхару Наваполацка прад'явілі абвінавачванне па 1 і 2 частках артыкула 209 КК — махлярства. У чаканні суда ён знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе і належных паводзінах і ўжо паспеў часткова пакрыць пацярпелым шкоду.

Расследаванне гэтай крымінальнай справы завершана, і яно перададзена пракурору для накіравання ў суд, пра гэта паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці Аксана Лазько.

*ННВ.*

